# Бясспрэчная перамога Захаду

**ДА РАТЫФІКАЦЫІ ФРАНЦЫЯЙ ПАРЫСКІХ ДАГАВОРАЎ**

Стары год закончыўся, як мы ў папярэднім нумары прадсказвалі, выдатным трыумфам заходняй палітыкі ў справе збудаваньня заходняэўрапэйскай абароннай сыстэмы. Як ведама, удача або няўдача гэтай палітыкі залежыла вылучна ад Францыі, якая, навучаная гістарычным дасьветчаньнем ды не дацэньваючы савецкай загрозы, больш баіцца небясьпекі адроджанага нямецкага мілітарызму чымся больш актуальнай агрэсіі савецкага імпэрыялізму. Умела выкарыстоўваючы такое настаўленьне Францыі, Саветы пусьцілі ў рух усю сваю дыпляматычную й прапагандовую машыну, каб перашкодзіць ратыфікацыі французскім Нацыянальным Сабраньнем парыскіх дагавораў. У сувязі з такой складнасьцю й скамплікаванасьцю цэлай праблемы былі сур'ёзныя падставы баяцца, што ратыфікацыя ў Парыжы можа праваліцца. А гэта выклікала-б глыбокі крызыс у заходнім лягеры і паставіла-б яго проста ў бязвыхадную сытуацыі.

Вашынгтон і асабліва Лёндан нядвузначна пагражалі, што ў выпадку адмовы французскім Нацыянальным Сабраньнем ратыфікаваць парыскія дагаворы, Нямеччына будзе ўсёроўна імі ўзброенай навет супраць згоды Францыі. Тым ня меней, аднак, у палітычных колах як наагул заходніх, гэтак і французскіх здавалі сабе справу, што зьмантаваньне заходняэўрапэйскай абароны бяз удзелу ў ёй Францыі практычна немагчымае. Калі-б у гэтай абароннай сыстэме і можна было абыйсьціся без французскіх дывізіяў, дык нельга было-б абыйсьціся на выпадак вайны з Саветамі без французскай тэрыторыі, якая мае для Францыі выняткавае стратэгічнае значэньне. Дык зусім зразумелым быў той трывожны неспакой і напружанае чаканьне ў заходніх сталіцах, зь якімі яны сачылі за ходам ратыфікацыйных дэбатаў у Парыжы.

Гэтыя дэбаты распачаліся ў французскім Нацыянальным Сабраньні 20 сьнежаня і закончыліся 30 сьнежаня. Мелі яны тры паасобныя і ў сваіх выніках зусім розныя фазы. Пасьля цэланочнага паседжаньня а 5 гадзіне раніцы 24 сьнежаня Нацыянальнае Сабраньне 280 галасамі супраць 259 пры 83, што паўстрымаліся, адкінула першы й найважнейшы артыкул парыскіх дагавораў, паводля якога Італія й Заходняя Нямеччына мелі быць прынятыя ў склад Бруксэльскага пакту, мела быць зь іхным удзелам створаная Заходня-Эўрапэйская Вунія й праведзенае ўзбраеньне Заходняй Нямеччыны. Затое дагавор аб прывярненьні Заходняй Нямеччыне суверэнітэту быў прыняты 472 галасамі супраць 164. Дагавор аб будучыні Саарскай акругі быў ратыфікаваны 368 галасамі супраць 145.

Нэгатыўны вынік галасаваньня ў справе найважнейшага парыскага дагавору выклікаў у заходнім сьвеце пачуцьцё глыбокага расчараваньня, а французскі прэм'ер Мэндэз Франс паставіў ультымат, што з вынікамі галасаваньня ў другім чытаньні ён зьвязвае справу вотум даверу для свайго ўраду. Другое галасаваньне адбылося 27 сьнежаня, якім дагавор аб уключэньні Італіі й Нямеччыны ў склад Заходня-Эўрапэйскай Вуніі, узбраеньні Нямеччыны й прыняцьці яе ў склад Атлянтычнага пакту быў ратыфікаваны бальшынёю 38 галасоў. За дагаворам галасавала 289 дэпутатаў, супраць 251 і 78 устрымалася. І напасьледак 29 сьнежаня адбылося трэйцяе й апошняе галасаваньне над усімі парыскімі дагаворамі разам, якое правяло іхную ратыфікацыю бальшынёю 27 галасоў. Паіменна: за ратыфікацыяй 287, супраць 260.

Такая хісткасьць і нязд эцыдаванасьць французскага Нацыянальнага Сабраньня, якое спачатку дагавор адкінула, каб за пару дзён яго прыняць, як і нязначная бальшыня, што выказалася за ратыфікацыяй, гавораць самі за сябе і асабліва аптымізму ў колах заходніх палітыкаў ня выклікаюць. Усё гэта гаворыць за тым, што Францыя сяньня ня ёсьць вельмі пэўным і надзейным саюзьнікам Захаду. З другога боку, ратыфікацыя Францыяй парыскіх дагавораў канчаткова паставіла кропку над «і» і адхіліла найвялікшую перашкоду, што стаяла на дарозе да зьдзейсьненьня заходняэўрапэйскай абароннай сыстэмы ў форме Заходня-Эўрапэйскай Вуніі.

Ангельскі парлямант, як ведама, вялікай бальшынёй галасоў першым ратыфікаваў парыскія дагаворы. Потым, 23 сьнежаня ратыфікавала яго Італія вялікай бальшынёю 335 галасоў супраць 215 бязь нікога, хто-бы ад голасу паўстрымаўся. Зьяўляецца пэўным на 100%, што хутка будуць яны ратыфікаваныя й парлямантамі Бэльгіі, Галяндыі і Люксэмбургу. Астаецца яшчэ тады апошняе слова за Заходняй Нямеччынай.

Пазыцыя наважанага прыхільніка заходняй сыстэмы канцлера Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі др. Адэнаўэра апошнім часам значна аслабілася ў нямецкай нутранай палітыцы галоўна з прычыны падпісаньня ім дагавору ў справе Саары, паводля якога Нямеччына згадзілася адмовіцца ад сваіх прэтэнсіяў да гэтай вельмі важнай акругі, заселенай Немцамі. Саарскі басэйн будзе цяпер «эўрапэізаваны» зь вялікімі выгадамі для Францыі. Паколькі-ж дагавор аб Саары разглядаецца, як неадлучная частка ўсіх іншых парыскіх дагавораў, канцлер Адэнаўэр будзе мець у парляманьце вельмі сільную апазыцыю. Таму трэба спадзявацца, што парыскія дагаворы бонскім парлямантам хаця й будуць ратыфікаваныя, але невялікай бальшынёй, бо значная частка дэпутатаў з урадавай кааліцыі будзе галасаваць супраць.

Хаця справа стварэньня заходняэўрапэйскага абароннага саюзу цягнулася доўгі час і радзілася ў вялікіх муках, аднак закончылася вынікам пазытыўным. У гэтым і заключаецца вялікі трыумф заходняй палітыкі і ня менш вялікі й балючы ўдар для Савецкага Саюзу. Захад закончыў стары год і распачаў Новы 1955 Год бясспрэчнай перамогай.

**Алесь Крыга**

# Да беларуска-летувіскіх дачыненьняў

Пасьля надрукаваньня адказаў на апытаньнік, каторыя «Бацькаўшчына» перадрукавала ў № 39-40 і 41, «Тэвішкес Жыбурай» («Сьвятло Дамовы») зьмясьціў на тэму беларуска-летувіскіх дачыненьняў наступны рэдакцыйны артыкул у № 21 (230):

**«БЕЛАРУСЫ Й МЫ»**

„У мінулым нумары «Тэвішкес Жыбурай» наш ньюёрскі карэспандэнт Альмус крыху шырэй разгледзіў праблему ўзаемных дачыненьняў із Беларусамі. Таго-сяго некаторыя цытаваныя ім выказваньні Беларусаў можа на'т вельмі зьдзівілі. Яны былі можа некаторым нячуванай неспадзеўкай. Трэба, адылі, зацеміць, што цытаваныя там пагляды належаць якраз найболей прыязным да Летувісаў дзеячом. Бальшыня іншых выказалася-б яшчэ станаўчэй. Усе летувіскія масы павінны ўсьведаміць сабе, што ў нас ёсьць ня толькі польская, але й беларуская праблема. Беларусы ўважаюць даўнейшае Вялікае Княства Літоўскае за беларускае гаспадарства, іншымі словамі, прысабечуюць мінуласьць Летувы. Але ня толькі мінуласьць. Тэрытарыяльныя прэтэнсіі іхныя ня меншыя за польскія. Свае заходнія граніцы яны вядуць церазь Еўе й Жыжморы.

Гэткія факты, ведама, не павялічваюць нашых сымпатыяў да Беларусаў і ня надзяць нас да бліжшага супрацоўніцтва зь імі. Іхныя тэорыі даволі наіўныя, ім не стаець навуковага падкладу, але затое ў іх відаць шмат нацыяналістычнага запалу, з каторым усё-ж нельга ня лічыцца. Ён можа стаць і палітычным аб'ектам. Беларусы-ж нашыя суседзі. Іхная будучыня ня можа не датыкацца будучыні летувіскага народу.

Сярод нас помала зацікаўленьня Беларусамі і іхнымі (нацыянальнымі) імкненьнямі. Мы павінны ўсё-ж напомніць, што іх усіх каля 12 мільёнаў. І гэта не Расейцы, як таму-сяму здаецца. Болей за 150 год яны былі пад уладаю Расейцаў, а ўсё-ткі іх нацыянальны рух патроху разьвіваўся. Народ не растаіў і ня зьліўся з Расейцамі. Ад дальшага росту гэтага руху можа залежыць нат доля ўсяе Эўропы. Калі-б Беларусам удалося стаць на свае ногі побач із Украінаю, вага расейскага колёса ў Эўропе была-б чыста падарваная — ад яго было-б аднята 50 мільёнаў жыхароў. І гэта ў карані зьмяніла-б дачыненьні палітычных сілаў Усходняе Эўропы.

Некаторыя з нашых палітыкаў ані ня хочуць цікавіцца беларускай праблемаю. Нам быццам не карысна зьяўленьне Беларусі. Але ўспомніце, што гэтае зьяўленьне не залежа ад нашага жаданьня і ад карыснасьці нам. Беларускі народ, што прачыхаецца — гэта ўжо жыцьцёвы факт. Гэтае адраджэньне нясець нам беспасярэдня толькі небясьпечнасьць ведамых ускладненьняў. Але, ацэнюючы палажэньне з гледзішча дальшага развою, яно нам і ўсяму гэтаму раёну Эўропы навет канечне патрэбнае. Мы ўжо лёгка можам зразумець, што пакуль існуе расейская імпэрыя, малыя народы на ейных узьмежках будуць жыць у вечным страсе быць праглынутымі. Гэтая небясьпечнасьць можа зьгінуць адно тады, калі гэты расейскі колёс будзе абрэзаны з усіх бакоў і буйнымі кавалкамі — вылучэньне такіх кавалачкаў, як Балтыцкія народы, ня мела-б яму нійкага значэньня. Але трэба прызнаць яшчэ горшую праўду, наймя, што й вызваленьне гэтых народаў, пакуль расейская імпэрыя не павалена, ані немагчымае. Ні ў якім прыпадку Расея самахоць не адмовіцца ад акупаваных краёў, ні ў якім прыпадку адтуль самахоць ня выйдзе. Умова вызваленьня гэтых краёў і вольнай будучыні — гэта адцісьненьне Расейцаў у іхныя прыродныя землі, у кірунку Волгі. Праўда, таксама Волга ня ёсьць расейскай спрадвеку, адылі на адраджэньне тамашніх старых народаў няма чаго спадзявацца. Але затое бяссумлеву могуць жыць незалежным жыцьцём народы раёну Каўказу і Касьпійскага мора, каторых адлучэньне было-б другім вялікім ударам па расейскай імпэрыі і сьціравала-б увагу Расейцаў на раён паўдзённага Сібіру, ня меней багаты мінэраламі.

Ня трэба думаць, што гэта толькі неразумныя лятуценьні. Калі-б яны былі дурныя, дык яшчэ дурнейшыя ўсялякія іншыя надзеі на вызваленьне, асабліва-ж на тое, што побач із непадзельнай расейскай імпэрыяй, гэтай турмой народаў, маглі-б існаваць вякамі малыя гаспадарствы, дый яшчэ адгараджаючыя гэтага колёса ад мораў!

Мы ўсё такі павінны ўсьвядоміць, хочацца нам гэтага ці ня хочацца — нашая доля зьвязана з доляю іншых народаў, уцісьненых Расейцамі, у тым ліку й Беларусаў. Праўда, што нацыяналістычныя беларускія колы вельмі няпрыязныя да Летувісаў, адылі-ж ігнаруючы іх, не зварачаючы на іх увагі, мы іх сваймі прыяцелямі ня зробім. А трэба было-б, бо да гэтага кліча надыходзячае супольнае ходаньне за вызваленьне і патрэба будучага сужыцьця.

Калі-б у 1918 г. імкненьні Украіны й Беларусі пачаць новае жыцьцё ўдаліся, калі-б гэтыя краі ня былі ўзноў паняволеныя Расейцамі — на гэты раз бальшавікамі — і нашая доля была-б накшая, 1940—1941 гады былі-б немагчымыя. Нашым жаданьнем павінна быць, каб сучасныя імкненьні гэтых народаў не прапалі дарма, а нашае заданьне — знайсьці хворму ўзаемных дачыненьняў.

✶

**АД РЭДАКЦЫІ:** Вышэй прыведзеныя словы летувіскае газэты аб правільным разуменьні беларускае праблемы і аб патрэбе беларуска-летувіскага зьбліжэньня шчыра вітаем. Яны йдуць па лініі думак нядаўна зьмешчанага намі артыкулу «Пад супольным знакам Пагоні». Але каб узаемнае паразуменьне й зьбліжэньне магло стацца магчымым, патрэбны з абодвых бакоў аб'ектывізм у спрэчных пытаньнях. А цьверджаньне «Тэвішкес Жыбурай», што мы, уважаючы Вялікае Літоўскае Княства за беларускую дзяржаву, «прысабечваем мінуласьць Летувы» — далёкае ад аб'ектывізму. Далей, «ня трэба бачыць у чужым воку макулінкі, а ў сваім не заўважаць бервяна». Гэтак летувіская газэта закідае нам, што мы вядзём свае граніцы церазь Еўе і Жыжморы, а забываецца пры гэтым, што амаль усе Летувісы вядуць свае граніцы далёка на ўсход ад Горадні, па Наваградак, Маладэчна і на ўсход ад Паставаў і Браслава, г. зн. цераз тэрыторыі, многія зь якіх аддаленыя ад этнаграфічнае Летувы больш чымся на 100 кілямэтраў.

# Кампартыя у пошуках пэрпэтуум мобіле

Перад тым, як везьці ў Маскву на паказ сваё творчае аблічча, беларускія савецкія пісьменьнікі наладзілі былі ў сябе «генэральную рэпэтыцыю» — трэці пісьменьніцкі зьезд. На зьезьдзе гэтым, замест уступу, гаварылася аб «шматгранным савецкім жыцьці» й «захапляючым эпосе», а аснаўную частку сваіх выступленьняў прамоўцы прысьвячалі малакроўнасьці беларускае прозы, рахітычнасьці паэзіі, адсталасьці драматургіі й дзіцячае літаратуры, сьвінагадоўлі, угнаеньню й падобным гаспадарскім актуальнасьцям. У падсумоўваньні ўсяго гэтага гаварэньня выйшла, што асягненьні беларускіх пісьменьнікаў на фоне вымогаў, стаўленых камуністычнай партыяй, выглядаюць бледненька. Галоўная бяда ў тым, што беларускім пісьменьніцкім калектывам ня створаны яшчэ й дасюль гэтак званы «гэрой сацыялістычнай працы». Беларускія літаратары не здабыліся яшчэ на пераконваючы вобраз патрэбнага камуністым чалавека-робата, чалавека-машыны, духовага й фізычнага стаханаўца, які-б пераўтвараў прыроду, гараў цалінныя казахстанскія землі, стаяў дзень і ноч пры станку і суправаджаў свой нечалавечы высілак думкамі аб патрэбах партыі, не клапоцячыся ні аб сабе, ні аб сям'і, ня маючы навет права на выяўленьне сваіх штодзённых асабістых турбот.

Аб незадаваленьні партыі дасюлешняй працай беларускіх пісьменьнікаў выразна заявіў ЦК КПБ вуснамі свайго сакратара Гарбунова: «Беларуская літаратура не пазбаўлена вельмі істотных недахопаў. Добрых кніг у нас яшчэ ўсё не хапае».

Вось-жа па дырэктывы да стварэньня гэтых «добрых» кніг і паехала ў Маскву на Другі Зьезд пісьменьнікаў СССР беларуская пісьменьніцкая дэлегацыя. Аб характары й зьмесьце гэтых дырэктываў можна дагадацца і не чакаючы на апошнія паведамленьні з Масквы. Згары ўжо ведама, што дырыгаваны партыйцамі зьезд пройдзе пад лёзунгам гуртаваньня пісьменьніцкіх радоў вакол камуністычнае партыі ды павышэньня мастацкага майстэрства да пераканальнага ўзроўню. Але будзе валкавацца там і яшчэ адна важная праблема — гэта самая тэматыка, якую будуць змушаны распрацоўваць беларускія пісьменьнікі ў сваіх новых творах.

Ужо на аснове матарыялаў беларускае савецкае прэсы, апублікаваных «насустрач Другому Ўсесаюзнаму Зьезду Пісьменьнікаў», ясна відаць, куды будзе кінуты галоўны цяжар тэматыкі ў беларускай літаратуры. Неадкладным заданьнем беларускіх пісьменьнікаў будзе стварэньне вобразаў мэханізатараў, сьвінарак, кураводак і падобных «гэрояў працы», да ідэйнага ўзроўню і да выпрацоўнае нормы якіх можна будзе падцягваць кажнага калгасьніка й хвабрычнага работніка. На прыкладзе сваіх «гэрояў» пісьменьнікі стануць угаварваць людзям, што й высілак, і ўсе штодзённыя бясконцыя нягоды падсавецкага жыцьця прыносяцца ў імя дзяржавы, у імя дабрабыту людзтва, у імя марксізму, камунізму й падобных аблыжных абстракцыяў.

На Другім Зьезьдзе беларускім пісьменьнікам яшчэ раз прыпомняць, што была верасьнёвая пастанова ЦК аб уздыме сельскагаспадарскай прадукцыі, што ў наступным годзе трэба будзе падцягнуць да 30-і мільёнаў гактараў узгараную цаліну Азіі, што трэба паслаць 10 тысяч камсамольцаў на жывёлагадоўлю й г. д.

Не павесялее аднак у беларускай літаратуры й пасьля Другога Ўсесаюзнага Зьезду. Мастацкая бядота й вобразная беднасьць застануцца й надалей ейнымі сталымі й неадлучнымі спадарожнікамі. У пагоні за вобразам бадзёрага й жыцьцярадаснага чалавека працы беларускія пісьменьнікі будуць дарэмна марнаваць свае сілы датуль, пакуль ня будзе створаны рэальны прататып да гэткага вобразу — запраўдны вольны працоўны чалавек.

**Я. Запруднік**

# Распачынаючы новы год працы

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

ад нас прычынаў мы апынуліся ў васабліва цяжкім матарыяльным палажэньні, з прычыны якога былі змушаныя перарваць на даўжэйшы час выдаваньне «Каласкоў». А ад палавіны лета наступіў гэткі-ж самы крызыс і ў рэдакцыйным складзе, бо людзі былі змушаныя заняцца іншымі, ня менш важнымі грамадзкімі справамі. Трэба было рэарганізаваць усю працу і папоўніць рэдакцыю новымі сіламі. Даканаць гэтага з розных прычынаў адразу было немагчыма. Такое палажэньне адбілася на рэгулярнасьці выхаду нашае газэты, што мінулы год прыйшлося закончыць ня 52-ім, як павінна было быць нармальна, але 48-ым нумарам. З гэтае-ж прычыны зацягнулася і выдаваньне далейшых кніжак твораў беларускае як клясычнае, гэтак і сучаснае мастацкае літаратуры.

Аднак справа ўпарадкаваньня і ўнармаваньня нашае далейшае рэдактарскае і выдавецкае працы перад некалькімі тыднямі была шчасьліва разьвязаная. Да сыстэматычнага рэдакцыйнага супрацоўніцтва ў газэце прыступіла некалькі здольных маладых публіцыстых, што памагло ня толькі рэгулярна прадаўжаць нашую працу, але й палепшыць яе якасна: чытачы знаходзяць цяпер на балонах газэты рад новых прозьвішчаў, ад чаго газэта сталася больш жывой, размавітай і шматбаковай. Узнавілася таксама й выдаваньне «Каласкоў», якія сяньня прадстаўляюць сабою адзіную лектуру для нашых дзяцей ды служаць ім падручнікам для навучаньня роднае мовы і нацыянальнага ўзгадаваньня. Выдавецтва «Бацькаўшчыны» мае ўжо поўнасьцю зложаныя і поўнасьцю аддрукаваныя чатыры новыя вялікія кніжкі найлепшых твораў нашае мастацкае літаратуры, якія адразу пасьля сьвятаў, калі праміне выкліканае імі абцяжаньне працы ў друкарні, пачнуць паяўляцца адна за аднэй у наступнай чарговасьці: 1. **«Сымон Музыка»,** паэма Якуба Коласа, 2. **«Спадчына»** — вялікі зборнік паэзіі Янкі Купалы, 3. **«Ля чужых берагоў»** — альманах выбраных твораў сучасных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі, і **«Творы»** Власта (Вацлава Ластоўскага).

У першай палавіне бягучага году нашае Выдавецтва заплянавала выдаць дзьве далейшыя кніжкі нашае літаратуры: 1. мастацкі нарыс сучаснага беларускага пісьменьніка на эміграцыі Юркі Віцьбіча **«Плыве з пад Святое гары Нёман»** і 2. аповесьць дзесяць год таму памерлага выдатнага беларускага празаіка Кузьмы Чорнага **«Лявон Бушмар».** Яшчэ пазьней ставім сабе за заданьне выдаць вялікі зборнік выбраных твораў аднаго з найвыдатнейшых беларускіх паэтаў эпохі «нашаніўства» — Максіма Багдановіча.

Гэтак сьціплая групка людзей, што знаходзіцца ў Мюнхэне, і такая-ж сьціплая групка за акіянам, што стала засільвае рэдакцыю сваімі творамі й артыкуламі, не шкадуючы ані часу, ані энэргіі й здароўя, бязінтэрэсоўна робіць усё магчымае, каб роднае друкаванае слова — гэтая наймагутнейшая зброя ў нашым нацыянальным і палітычным змаганьні — не замерла на эміграцыі, але каб буйна красавала, усьцяж разьвівалася й пашыралася.

Дабравольна прынятыя на сябе абавязкі ўспомненых людзей ускладаюць таксама некаторыя грамадзкія абавязкі, праўда, шмат лягчэйшыя і сьціплейшыя, і на ўсіх іншых нашых суродзічаў на эміграцыі. Гэта — пры ўсякай нагодзе і пры кажнай магчымасьці стала памагаць нашаму Выдавецтву і матарыяльна, і ў пашыраньні ды кальпартаваньні нашых выданьняў, і ў галіне супрацоўніцтва ў самой газэце. Да ўсіх нашых суродзічаў ад таго, дзе яны сяньня ў вольным сьвеце знаходзяцца, мы зьвяртаемся із гарачым заклікам:

**Не павінна быць аніводнага Беларуса на чужыне, які-б ня быў падпішчыкам, чытачом і пашыральнікам «Бацькаўшчыны» і ейных кніжных выданьняў!**

Хочацца верыць, што словы гэтыя нашыя суродзічы прыймуць да сэрца, іх зразумеюць і выкажаць трохі добрай волі, каб пастаўлены намі лёзунг стаўся рэчаіснасьцю. Гэтым дробным, але масава праяўленым высілкам будзе зробленая вялізарная нацыянальная работа.

**Рэдакцыя й Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

**Мюнхэн, 1. 1. 1955 году.**

## ДА НАШЫХ ПАДПІШЧЫКАЎ

**Ува ўсіх адміністрацыйных справах газэты, як падпіска, зьмена адрасу, урэгуляваньне належнасьці, выпіска кніжак і г. п., трэба зьвяртацца непасрэдна да Адміністрацыі «Бацькаўшчыны». Просьбы палагоджаньня адміністрацыйных справаў, накіроўваныя на адрас рэдактароў і іншых асобаў, ня будуць выконваныя.**

**Адміністрацыя «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# Чалавек можа зьнішчыць сьвет

Польскі лёнданскі літаратурны тыднёвік «Вядомосьці» ў нумары за 3. 1. 1955 году сабраў высказваньні некаторых вучоных і палітыкаў аб зьнішчальнай сіле атамных і вадародных бомбаў. З гэтых высказваньняў вынікае, што ў нашую атамна-вадародную эру чалавек пры помачы атамнага аружжа можа лёгка зьнішчыць даслоўна ўсё арганічнае жыцьцё на цэлай зямной кулі, іншымі словамі з волі сьмяротнага чалавека, а ня толькі надпрыроднай сілы боскай, можа наступіць біблійнае «сканчэньне сьвету». Вось гэтыя высказваньні, якія прыводзіць польская газэта:

Як вынікае з апэляў Чэрчыля, Эйнштэйна і амэрыканскага міністра Тэльбота, адначасны выбух пяцісот вадародных бомбаў мог-бы зьнішчыць усё жыцьцё на зямлі і замяніць яе ў вымершую плянету. Мы даведаліся так-жа, што цяперашнія «мірныя» выпрабаваньні вадародных бомбаў могуць выклікаць пераварот у клімаце, расьлінным жыцьці й дасюлешніх формах жыцьця людзкога. Нядаўна група французскіх вучоных зь Люі дэ Бролі на чале сьцьвердзіла, якія насьледкі пагражаюць сьвету ад пробных выбухаў, праведзеных Расеяй і Амэрыкай ад красавіка 1954 году. Вучоныя гавораць мовай Апокаліпсы.

Іхны мэмарыял, прадстаўлены Парыскай Акадэміі Навук, зрэдагаваў Шарль-Ноель Мартін. Камэнтуе яго шырака Люі Повельс у «Каррэфор» за 24 лістапада 1954 г. Некалькі дзесяткаў новых выбухаў вадародных бомбаў можа выклікаць забурэньне зямнога існаваньня. Пагражае часткавы занік сонечнага праменяваньня, пераворат у тэмпэратуры, паводкі, «вынікі гэнэтычныя, важныя й неадменныя».

Хопіць «яшчэ некалькі дзесяткаў пробных выбухаў . . .» — паясьняе рэчова мэмарыял вучоных. Дагэтуль Амэрыканцы выпрабавалі 48 бомбаў, як атамных, гэтак і вадародных, Расейцы — 12, Брытанцы правялі два выбухі (у Аўстраліі).

(Заканчэньне на 5-ай балоне)

# Бальшавікі дацэньваюць ролю эміграцыі

Апошнімі месяцамі Масква пачала праяўляць асаблівую зацікаўленасьць дзейнасьцю антыкамуністычных эміграцыяў з Савецкага Саюзу і, што найважней, распачала крокі з мэтаю супрацьдзеяньня эміграцкай антыбальшавіцкай акцыі. Яна пусьціла ў рух такія выпрабаваныя ёю мэтады, як правакацыйнае кампрамітаваньне эміграцкіх палітыкаў і эміграцыі ў цэласьці ў вачох палітычных дзейнікаў Захаду, выкраданьне эміграцкіх дзеячоў, каб потым выкарыстоўваць іх дзеля вымушаных заяваў, што яны перайшлі на савецкі бок дабравольна, ды абвяшчаць у прэсе і радыё дыскваліфікуючыя эміграцыю нябыліцы з мэтаю скампрамітаваць яе ў вачох савецкага грамадзянства, ды, напасьледак, індывідуальны тэрор супраць прадстаўнікоў эміграцыі.

Усё гэта вымоўна гаворыць за тым, што бальшавікі эміграцыі і яе дзейнасьці моцна баяцца і ўсякімі спосабамі стараюцца яе спараліжаваць і зьменшыць ейны эфэкт. Баяцца, бо эміграцыя зьяўляецца сяньня адзіным фактарам, які мае магчымасьць трохі прыпадняць шчыльна зацягнутую зялезную заслону: з аднаго боку яна дакладна інфармуе Захад аб тым, што за зялезнай заслонай дзеіцца, даючы яму канкрэтныя інфармацыі зь першае рукі, а з другога — яна пры помачы радыя і іншымі шляхамі мае магчымасьць прамаўляць да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне, гаварыць да тых, якія маюць да яе поўны давер. І гэта бясспрэчны ўжо факт, што эміграцыя з Савецкага Саюзу годна выконвае сваю гістарычную місію і свайго побыту ў вольным сьвеце не марнуе.

Але ёсьць яшчэ адзін вельмі цікавы і важны аспэкт гэтае справы. Бальшавікі, зразумела, ненавідзяць усяе эміграцыі, як жывых сьветкаў на Захадзе іхных злачынстваў. Але да таго часу, пакуль эміграцыя ня мела голасу, пакуль між некаторымі эміграцкімі коламі і Амэрыканцамі не завязалася супрацоўніцтва, яны на дзейнасьць эміграцкіх арганізацыяў бадай што зусім ня рэагавалі. Яны аб ёй маўчалі, бо ведалі, што весткі аб гэтай дзейнасьці не пранікнуць празь зялезную заслону да народаў Савецкага Саюзу, і таксама разумелі, што заходні сьвет ня так лёгка паверыць у рэвэляцыі эмігрантаў аб савецкіх злачынствах, бо для заходняга чалавека, навет антыкамуністычна настроенага, яны будуць за сэнсацыйныя і мала праўдападобныя. І хаця савецкія агенты раней шмат свабадней, чымся сяньня, парушаліся ў краінах Заходняе Эўропы, а ў Заходняй Нямеччыне чуліся, як у сябе дома, эмігрантаў не чапалі і актаў індывідуальнага тэрору не праводзілі. Эмігранты, у сілу сваіх абмежаваных магчымасьцяў, былі для савецкага рэжыму амаль што бясшкодныя.

Але вось пачало завязвацца супрацоўніцтва між эміграцкімі арганізацыямі і Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму, які стварыў матарыяльныя і тэхнічныя магчымасьці расшырэньня эміграцкай антыкамуністычнай дзейнасьці, памогшы ёй выйсьці з дасюлешняга вузкага абмежаваньня, і пачаў падтрымліваць яе палітычна. Праўда, свайго галоўнага заданьня — стварэньня палітычнага цэнтру эміграцыяў Амэрыканскі Камітэт не дасягнуў і дагэтуль. Але гэты Камітэт даў у рукі эмігрантаў дзьве важныя пазыцыі, на якіх яны могуць зактывізаваць сваю антыбальшавіцкую дзейнасьць і пераказаць яе далёка па абодвых бакох зялезнае заслоны.

Аднэй такой пазыцыяй зьяўляецца радыё «Вызваленьне», церазь якое эмігранты гавораць да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне, адкрываюць ім усю праўду аб бальшавізьме і вольным сьвеце, нясуць словы пацехі і гартуюць іхную волю да змаганьня. Цераз гэтае радыё гавораць не Амэрыканцы і гаворыцца не ад імя Амэрыканцаў. Тут гавораць запраўдныя прадстаўнікі паняволеных народаў, іхныя словы даходзяць да слухачоў і выклікаюць у іх поўны давер. Другой пазыцыяй зьяўляецца Інстытут для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР, які, згуртаваўшы вакол сябе вучоных шматнацыянальнае эміграцыі з Савецкага Саюзу і даючы ім магчымасьці навуковае працы, аб'ектыўна, навукова, на фактах і канкрэтных дадзеных, знаёміць заходні сьвет з праўдаю аб савецкай імпэрыі і яе рэжыме. Абедзьве гэтыя пазыцыі, здабытыя эмігрантамі дзякуючы матарыяльнай і тэхнічнай дапамозе Амэрыканцаў, зьяўляюцца ўжо для бальшавікоў страшнымі і небясьпечнымі.

Гэтак яшчэ некалькі месяцаў таму назад апынуўся ў Савецкім Саюзе стары ўкраінскі эмігрант Круты і перадаў праз савецкае радыё ды зьмясьціў у савецкай прэсе даўжэзны артыкул аб украінскай эміграцыі на Захадзе. Для нас ня мае значэньня, ці Круты дабравольна перайшоў да бальшавікоў ці яго бальшавікі выкралі. Для нас былі цікавыя ягоныя выказваньні, бо няма найменшага сумлеву, што праз вусны Крутага гаварыла бальшавіцкае МВД.

Вось-жа Круты ўсё астрыё свайго нападу ськіваваў супраць Амэрыканскага Камітэту, як агентурнай арганізацыі амэрыканскага шпіянажу, і ў першую чаргу супраць тых украінскіх эміграцкіх палітыкаў, што з гэтым Камітэтам увайшлі ў супрацоўніцтва. Галоўнай мэтай гэнага бальшавіцкага ўдару было само супрацоўніцтва Амэрыканцаў з эміграцыямі і таму было яно прадстаўленае, як выключна шпіёнская змова для падрыўной акцыі ў Савецкім Саюзе.

Хутка пасьля гэтага наступілі акты індывідуальнага тэрору супраць працаўнікоў радыя «Вызваленьне», у выніку якіх трагічна загінуў рэдактар беларускай сэкцыі радыя Леанід Карась, а некалькі тыдняў пазьней — выдатны азэрбайджанскі палітычны дзеяч і дырэктар азэрбайджанскага аддзелу радыя «Вызваленьне» Фаталітбэйлі. Сталася ведамым, што савецкія агенты палявалі і на іншых працаўнікоў радыя, а адзін агент быў арыштаваны нямецкай паліцыяй, калі знаходзіўся ў памешканьні аднаго расейскага працаўніка радыя і, перадаўшы яму пісьмо ад ягоных бацькоў, што знаходзяцца ў СССР, намаўляў яго вярнуцца «на родину».

А вось найсьвяжэйшы прыклад з гэтае сэрыі. Перад чатырма месяцамі раптоўна зьнікнуў зь Мюнхэну выдатны грузінскі дзеяч Маглакелідзэ, які ў часе незалежнасьці Грузіі быў генэрал-губэрнатарам Тбілісі, пазьней Абхазіі, пасьля выэміграваньня ўзначальваў многія антыбальшавіцкія грузінскія арганізацыі на чужыне, а падчас апошняй вайны прыймаў актыўны ўдзел у збройным змаганьні супраць бальшавікоў і быў узьведзены Немцамі ў рангу генэрала.

Вось-жа ў першых днях сьнежаня 1954 году Маглакелідзэ абвесьціў у савецкай грузінскай газэце «Заря Востока» сваё асьветчаньне, якое потым перадрукавала ўсходнянямецкая камуністычная газэта «Тэгліхэ Рундшаў» у нумары за 9. 12. 1954 г. І ў гэтым выпадку мала нас цікавіць, ці Маглакелідзе сам перайшоў да бальшавікоў ці быў насільна апошнімі схоплены. Для нас цікавае ягонае асьветчаньне, бо і тут церазь ягоныя вусны гаворыць бальшавіцкае МВД, тым болей, што асьветчаньне Маглакелідзэ ёсьць амаль даслоўным паўтарэньнем у дачыненьні да Амэрыканскага Камітэту і супрацоўнічаючых зь ім грузінскіх і армянскіх эмігрантаў словаў Крутага, сказаных раней пад адрасам таго-ж Амэрыканскага Камітэту і ўкраінскіх палітыкаў, што з гэтым Кэмітэтам супрацоўнічаюць.

І Маглакелідзэ б'е якраз па тым, што бальшавіком найболей баліць. Ён прадстаўляе Амэрыканскі Камітэт, як выключна шпіёнскую арганізацыю, а супрацоўнічаючых зь ім Грузінаў і Армянаў, як запраданых Амэрыканцам шпіёнаў. Між іншага, Маглакелідзэ піша: «Амэрыканскі Камітэт у Мюнхэне зарганізаваў спэцыяльны аддзел з радыястанцыяй «Вызваленьне» і заснаваў там Інстытут для Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР, які займаецца зьбіраньнем і апрацоўваньнем разьведчых матарыялаў аб Савецкім Саюзе, а таксама рэдагаваньнем хвальшывых і пляткарскіх матарыялаў для антысавецкай прапаганды».

Абодвы выступленьні, Крутага і Маглакелідзэ, зьяўляюцца бясспрэчнымі довадамі, што падсавецкія народы ўжо зьяўляюцца паінфармаваныя аб дзейнасьці сваіх эміграцыяў, у чым выдатную ролю адыгрывае, зразумела, радыё «Вызваленьне». Для абясшкоджаньня гэтае эміграцыі і скампрамітаваньня яе сярод суродзічаў на бацькаўшчыне МВД прадстаўляе яе, вуснамі Крутага і Маглакелідзэ, як платных амэрыканскіх шпіёнаў і дывэрсантаў, а не як палітычных дзеячоў і змагароў за вызвольную ідэю. Каб забіць сярод народаў Савецкага Саюзу ўсякую надзею на помач эмігрантаў у іхным вызваленьні, Маглакелідзэ й прадстаўляе іхную акцыю, як «безнадзейнае прадпрыемства», аб чым пачынаюць пераконвацца і некаторыя эмігранты. З гэтага гледзішча нязвычайна вымоўным ёсьць наступны адрывак з артыкулу Маглакелідзэ:

«Практычная дзейнасьць галавароў антысавецкіх эміграцкіх арганізацыяў, што знаходзяцца на службе імпэрыялістычнай разьведкі, заслугоўвае на пагарду і зьяўляецца зусім безнадзейнай. Некаторыя з гэтых крыкуноў, што жывуць на амэрыканскія і ангельскія падачкі і выдаюць сябе за «палітыкаў», навет ня ведаюць, на сколькі жалюгодныя і сьмешныя іхныя спробы прынесьці якунебудзь шкоду для Савецкага Саюзу. А іншыя зусім намерана — наўмысьля — ня хочаць гэтага заўважыць. Аднак ня ўсе такія. Незадоўга да сваей сьмерці ў чэрвені 1954 году, адзін з галавароў грузінскіх меншавікоў — Гегечкоры — пісаў мне:

«. . . да чаго мне абрыдзела вечна стаяць з працягнутай рукой і прасіць падачкі . . .» Іншы «вождь» грузінскіх эмігрантаў — Кедыян — паконччыў жыцьцё самагубствам у 1954 годзе, выскачыўшы з вакна. І яшчэ адзін «правадыр» антысавецкай эміграцыі, Аліхан Кантэмір, што выдае нахабную газэтку «Об'единенный Кавказ», ацэньваючы пэрспэктывы эміграцыі, заявіў мне нядаўна: «Мы бязь ніякага сэнсу псуём паперу і ня ведаем, каму патрэбная нашая пісаніна».

Простыя эмігранты з каўкаскіх краёў вядуць цяжкое і бяспраўнае жыцьцё заграніцай. Галавары эміграцыі, якія даўно ўжо сталіся наёмнымі агентамі імпэрыялістычнай разьведкі, шляхам абману намагаюцца заманіць гэтых людзей у тую або іншую эміграцкую арганізацыю, якія займаюцца шпіянажам на карысьць ЗША або Ангельшчыны. І такім чынам стараюцца прымусіць іх дзеіць супраць іхнай бацькаўшчыны, супраць народу.

Гэта, аднак, становіцца з кажным днём цяжэй: бальшыня простых эмігрантаў дасканала разумее, што для іх нічога добрага з гэтага ня выйдзе».

Мэта гэтых словаў аж надта ясная: пераканаць падсавецкіх людзей, што іхныя эміграцыі не прадстаўляюць сабой якой-небудзь маральнай і ідэйнай сілы, што гэта запраданыя шпіёны, а не палітычныя дзеячы, што іхныя намаганьні безнадзейныя і савецкія людзі не павінны мець ніякай надзеі, што эміграцыі гэтыя нешта зробяць для вызваленьня сваей бацькаўшчыны.

З усяго вышэй сказанага і мы і нашыя партнэры з Амэрыканскага Камітэту павінны зрабіць адпаведныя вывады. Мы, эмігранты вывады гэтыя ўжо зрабілі, заявіўшы ў сувязі з тэрарыстычнымі актамі супраць нашых працаўнікоў радыя «Вызваленьня», што з занятых намі антыбальшавіцкіх пазыцыяў не адступім. Не адступім ні на крок, хоць-бы трэба было прынесьці далейшыя ахвяры. Змаганьне з бальшавізмам за вызваленьне нашае бацькаўшчыны і ейную дзяржаўную незалежнасьць зьяўляецца найвялікшым нашым заданьнем, нашай канчальнай мэтай.

Але правільныя з гэтага вывады павінны зрабіць і Амэрыканцы, у дадзеным выпадку — Амэрыканскі Камітэт. Прыведзеныя ў гэтым артыкуле факты паказваюць, што эміграцыі з Савецкага Саюзу здольныя адыграць вялікую ролю у змаганьні з бальшавізмам, што бальшавікі дацэньваюць нашу ўдзельную вагу ў гэтым змаганьні і нас баяцца. А дзеля гэтага Амэрыканскі Камітэт павінен яшчэ больш зактывізаваць сваё супрацоўніцтва з эміграцыямі, а галоўнае — даць ім поўную свабоду ў выбары стратэгіі й тактыкі гэтага змаганьня, не паралiжаваць іхнае ініцыятывы згары накіданымі дырэктывамі ды не заганяць іх супраць волі ў цесныя рамкі г. зв. «непрадрашэнства». Толькі пры такіх умовах дзейнасьць эміграцыяў зможа быць узапраўды поўнавартаснай і для бальшавізму небясьпечнай.

**Язэп Каранеўскі**

# У паняволенай Беларусі

### КРОК НАПЕРАД, ДВА НАЗАД АБО АБ БЕЛАРУСКІХ СЕЛЬСКІХ МЛЫНОХ

**«Зьвязда»** з 14. XII. 1954 г. Падаем без камэнтараў.

«За апошні час большасьць калгасаў Менскай вобласьці значна павысіла натуральную аплату працадня. Цяпер у кажнай сельгасарцелі можна сустрэць сем'і, якія атрымліваюць на працадні 60—100 пудоў збожжа, а то й больш. Радасная зьява! Але вядома, што зь зерня хлеб не сьпячэш. Раней чым пакласьці на стол духмяны каравай, зерне трэба змалоць. І вось атрымліваецца так, што калгасам і калгасьнікам часам лягчэй вырасьціць збожжа, чым змалоць яго.

«У Чырвонаслабодзкім раёне, напрыклад, ёсьць толькі адзін млын, які разьмешчаны ў раённым цэнтры. У раёне 20 сельгасарцеляў. За 20—25 кілёмэтраў вымушаны ехаць калгасьнікі ў млын у Чырвоную Слабаду. Але на гэтым іх турботы не канчаюцца. У млыне трэба ня менш 3—4 дзён чакаць свае чаргі. Калі ўлічыць, што кажнаму калгасьніку трэба зьезьдзіць у млын ня менш за 2 разы ў год ды патраціць пры гэтым на дарогу чацьвёра сутак, то атрымаецца, што кажны калгасьнік павінен аддаць гэтай справе штогоду ня менш за поўмесяца.

«Яшчэ больш часу трацяць на паездку ў млын чырвонаслабодзкія калгасы. Сродкаў, якія затрачаны калгасамі раёну за апошнія некалькі год для паездак у млын, хапіла-б, каб пабудаваць некалькі млыноў сярэдняй магутнасьці.

«Такое-ж становішча і ў Рудзенскім раёне. Тут, праўда, ёсьць 2 млыны: адзін райпромкамбінтау, другі — калгасу імя 16 партызан. Аднак калгасьнікам з аддаленых сельгасарцеляў прыходзіцца ехаць у млын за 20—30 кілёмэтраў. Таму, відаць, у кажнай вёсцы Рудзенскага, Чырвонаслабодзкага ды іншых раёнаў вобласьці амаль кругласутачна гудуць жорны, дзейнічае прадзедаўская «мэханізацыя».

«Не на многа лепш абстаіць справа і ў такіх раёнах, як Клецкі, Нясьвіскі і Стаўбцоўскі.

«У Клецкім раёне, напрыклад, ёсьць 9 млыноў, аднак яны не забясьпечваюць поўнасьцяй патрэб сельгасарцеляў і калгасьнікаў. Па сутнасьці млыны аддадзены на водкуп самім млынаром, і апошнія распараджаюцца там, нібыта ва ўласнай вотчыне: калі захацеў — пачаў работу, калі захацеў — скончыў.

«Ніхто не клапоціцца аб аснашчэньні млыноў абсталяваньнем. Зараз у Клецкім раёне ёсьць некалькі старых млыноў, якія ледзь працуюць.

«Ёсьць такія млыны, якія ўжо вышлі із строю, і ў Нясьвіскім, і ў Стаўбцоўскім раёнах. Агульная зьява — адсутнасьць у млынох прылад для пытляваньня мукі, тарак для крупарушак.

« — Ну, а што мы можам зрабіць? — у вадзін голас заяўляюць кіраўнікі райпромкамбінатаў, бездапаможна разводзячы рукамі. — Абсталяваньне для млыноў мы самі ня выpабляем. Нас павінен забясьпечваць аблмясцпром. Аблмясцпром у сваю чаргу спасылаецца на Міністэрства мясцовай і паліўнай прамысловасьці БССР.

«Запраўды, вельмі цяжка разабрацца, хто-ж усё-такі вінаваты ў тым, што млыны ня маюць абсталяваньня. Мэталічныя камплекты для млыноў выпускае толькі адно прадпрыемства ў рэспубліцы — аршанскі завод «Чырвоны барэц». У Менскую вобласьць гэтых камплектаў трапляе зусім мізэрная колькасьць. А што датычыць жорнаў для млыноў, то ў Менскай вобласьці іх з агнём ня знойдзеш. Раней іх выраблялі ў Баранавічах. Але гэта было раней.

«Яшчэ ў горшым становішчы знаходзяцца калгасныя млыны-ветракі ў названых раёнах. Большасьць іх стаіць без работы. Прычына — адсутнасьць абсталяваньня.»

### ПРАЦА БЕЛАРУСКАЕ КІНОСТУДЫІ

Радыё - Менск паведаміла 26-га сьнежаня:

«Беларуская кінестудыя значна расшырае сваю дзейнасьць па выпуску мастацкіх фільмаў. Закончваюцца здымкі каляровай кінокамэдыі «Несьцерка» па матывах аднайменнага твору Віталія Вольскага. Ужо пушчана ў вытворчасьць сцэнарый «Зялёныя агні», прысьвечаны жыцьцю й працы беларускіх чыгуначнікаў. Акрамя таго, у будучым годзе будзе пачата работа над фільмамі «Пачатак Шляху», у васнову якога пакладзен твор Міхася Лынькова «Міколка-Паравоз» і «Лясная быль» па сцэнарыю Губарэвіча і Дорскага.

«У 1955 годзе студыя выпусьціць не-

**(Заканчэньне на 5-ай балоне)**

**УЛАДЗІМЕР СЯДУРА**

# З раману „Вялікія Дарогі"

Man becomes a slave when deprived of the right to say no.

Manifesto of the Congress of Cultural Freedom.

(Чалавек робіцца нявольнікам, калі ён пазбаўлены права сказаць «не».

Маніфэст Кангрэсу Свабоды Культуры).

## I. ПРАЛЁГ: ЖЫЦЬ...

Ніколі яшчэ ў жыцьці Канстанцы не адчуў так глыбака і непераможна-прывабліва тое зяленіва, якое пакрывала сабой вяршаліну гэтага адзінотнага ясеня, што раськінуў вялізарную шапку свайго лісьця ў баку вуліцы якраз насупраць гэтага вакна. Усё, што ён пабачыў за адну часіну, нейкім раптоўным набегам ускалыхнула глыбака душу вязьня і скранула яе з тае абыякавасьці, што, здавалася, даўно й назаўсёды валодала ёй. І гэтая ціхая бязьлюдная вуліца, што збочыла ад шумлівасьці людзкое сумятні й гармідару ў гэты спакой усяго за колькі крокаў ад водгаласу трамвайнага скрыгату, і абмыты запозьнена-халодным, як для траўня, дажджом брук, і зацісьнены каменнымі панэлямі, але мацнейшы за ўсе штучныя перашкоды, рост маёвае сьвежа-зялёнае траўкі, што прабівалася праз найменшыя шчыліны, нясучы доказ няспыннага росту ўсяго жывога; і тая адзіная жанчына, твар якой зьверху трэцага паверху нельга было бачыць — усё тварыла ўяву раптам адроджанага жыцьця.

Жанчына перайшла наўскаса вуліцу хадою незаклапочанае, гордае сваёй маладосьцяй і сьведамае сілы й прывабнасьці. Відавочна, яна была зусім вольная ад думак пра чыесьці пакуты тут-жа, недалёка ад яе, усяго за колькі крокаў.

Зырка зялёны дыван шырака раськінутае вяршаліны схаваў яе на колькі часінаў ад звайстрэлага зроку Канстанцага, што нібы пранізваў яе суздром. Не магла жанчына ведаць, што да шыбы вакна трэцага паверху прыпаў бледны няголены твар ніколі няіснуючай для яе асобы, а ягоны зрок сочыць ейны кажны крок, і што яны становяць сабой нейкія іншыя вехі ў жыцьці невядомага вязьня. Калі вяршаліна схавала яе пад сваім контурам і да часу, калі яна зноў паказалася спад зяленіва, Канстанцы сіліўся сьвідраваць зрокам густую зялёную шапку. Але загустое было лісьцё, каб што-небудзь пабачыць. Адылі адчуваньне жыцьця на нейкую часіну ўзбуяла ў ягонай закарузлай і, здавалася-б, памёрлай для жыцьцёвых усплёскаў душы. Нібыта пяруном і маланкай прарэзала ейнае хмарнае неба, а ўлева ўмомант змыла нанесены доўгім часам пыл і бруд жыцьцёвае шэрасьці, спад аськепкаў жыцьця падняўся й пацягнуўся да сонца, сьвятла і шчасьця той жыцьцёвы стымул, што калісьці гэтак красаваў у гэтым маладым чалавеку. . . . Жанчына зноў паказалася з-за дрэва, крочачы той-жа нязьменна-пэўнай хадою. І ў чыстым празрыстым паветры, прарэзаным досыць слабымі, далёка яшчэ нялетнімі, косамі сонца, прад зрокам назіральніка праглянулі некаторыя ейныя рысы. Цяпер, калі ён пабачыў на кароткі міг ейны профіль, яму здалося, што дзесьці бачыў яе, — да таго-ж знаёмымі выдаліся яму рысы яе, уся постаць а, галоўнае, штосьці нявымоўна-знанае ў яе твары. І нат ня гэтак асобныя рысы яе, якіх нельга было разглядзець з вышыні на водталі, як агульны ейны выгляд, у якім адчувалася самаўсьведамленьне свае годнасьці.

Штосьці ўразьліва-знаёмае прабегла сьценем у сьведамасьці Канстанцага, запаланіла ягоныя пачуцьці радасным спадзяваньнем і скаланула ўсю ягоную істоту.

— Хто-ж гэта мог быць? — думаў ён і ніяк ня мог даць сабе рады ўспомніць з той азначанасьцяй, каб выклікаць ейнае імя.

Мінула яшчэ колькі часінаў гэтае няпэўнасьці. Жанчына йшла далей проста ў прасьцяг вуліцы і пачала зьнікаць у далячыні. Ужо ня відаць было ейнага профілю. Воддаль глынала постаць яе і штрыхавала контуры. За колькі часінаў яна зусім зьнікла, зьвярнуўшы недзе ў суседні завуляк.

Доўга яшчэ глядзеў-бы Канстанцы ўсьлед яе зьнікненьню і яшчэ доўга, мусіць, ягоны бледны схудзелы твар ня мог-бы адарвацца ад шыбы, даючы ў сваёй душы наперамену месца то раптоўна ўзроджанай радасьці жыцьця й адчуваньню, што яно-ткі цячэ сваёю дарогай, непераможанае ў нягодах гаротнымі дазнаньнямі людзей, то ўступаючы месца той няпэўнасьці, што вырастала зь немагчымасьці даведацца, хто-ж яна такая была. Мусіць, доўга яшчэ цягнулася-б, нябачнае пабочнаму воку й толькі балюча адчуванае самым ім, гэтае ўтрапеньне, разам і радаснае і гаротнае, ад пачатку.

Ніхто ня бачыў ягонага твару, што прыпаў да шыбы з адваротнага боку вакна. А каб сталася гэтае, то льга было-б прачытаць шмат нікім нячытанага, і хіба-ж толькі падобным да яго зразумелага ўзварушаньня адубелае душы, адроджанае смагі да жыцьця, жаданьня йзноў жыць, але, жыць . . . наўсуперак благому кону, што корчыў пачатныя пялёсткі парываньняў і калечыў лепшыя імкненьні маладосьці, падмінаў сваім грубым ботам цьвет ягонага красаваньня.

На нейкую часіну як-бы зьнікла адчуваньне запраўднасьці, і Канстанцы забыўся, што ён зусім ня вольны чалавек, а звычайны вязень, прыведзены з камеры на допыт і пакінуты ў калідоры чакаць свайго выкліку ў пакой да сьледчага. Канвойны, які прывёў яго сюды, атрымаў даручэньне прывесьці яшчэ кагосьці іншага на допыт, паслухмяна зьнік, загадаўшы Канстанцаму стаяць тварам да сьцяны, ня зыходзячы зь месца. Ён, пэўна-ж, і стаяў-бы, ня кратаючыся, каб ня гэтае, тут-жа побач, вакно, якое прывабіла яго спачатку густой зялёнай вяршалінай дрэва. Калі ён зрабіў гэтыя два крокі, што адлучалі яго ад вакна, дык ня мог ужо больш устрымацца, каб не парушыць загаду, і міжвольна, стыхійна зрокам сягнуў далёка за дазволеныя межы. І вось цяпер, па колькіх месяцах поўнае адлучанасьці ад жывога сьвету, людзей і прыроды доўгага гнібеньня ў сырым скляпеньні каменнага мяшка-камэры «Амэрыканкі» — найноўшага дасягненьня бальшавіцкага турэмнага будаўніцтва, — адкуль толькі малюсенькі кавалачак неба і быў відаць празь невялічкае ваконца каля столі, Канстанцы нарэшце дарваўся да сапраўднага вакна. Празь яго можна было бачыць ня толькі шырокі прасторны купал блакітнага бяздоннага неба зь лёгкімі пуховымі, бялява-ружаватымі хмарынкамі, быццам застыглымі ў паднябесьсі. Сама зямля, што прабівалася зяленівам праз

# Замест высокаякасных мастацкіх рэчаў ганчарскія пліткі

Калі дэмакратычны сьвет абыякава і зусім адмоўна ставіцца да існаваньня г. з. «савецкай культуры», а ўважаючы, што культура ў поўным значэньні гэтага слова **творыцца вякамі,** а ня некалькі пяцігодкамі — то кіруючая кліка СССР уважае гэту галіну сацыяльнага жыцьця ў сыстэме СССР за завершаную. Яна мае Міністэрства Культуры СССР, якое выдае свой ворган «Советская Культура», (выходзіць два разы на тыдзень і ўжо дасягнуў 208 нумару), а калі паверыць агенцыі Ройтэра зь Лёндану ад 16-га ліпеня 1953 году, то «... Пантэлейман Пономарэнко, a forceful Byelo-Russian in his 50's, given full pover by Premier Malenkov to organize culture ...»

Нам Беларусам гэты апошні сказ Ройтэра (хоць і не праўдзівы ў сваей першай частцы, бо Панцялейман Панамарэнка ня ёсьць Беларусам, а Казаком) шмат гаворыць аб зьмесьце гэтай культуры, на чале ці ў заплеччу (Міністрам Культуры СССР зьяўляецца Георгій Ф. Александров) якой стаіць П. Панамарэнка, і зусім ня ўводзіць у зьдзіўленьне, калі апрача загалоўка ў памянутым часапісе «... Культура», нічога культурнага не знаходзім.

А што гэта не галаслоўе, а праўдзівыя факты, я тут наводжу водгук нейкага Евг. Ефремова, зь Менску, які ёсьць зьмешчаны ў рубрыцы «Адказы і Водгукі» ў 205 нумары «Советской Культуры» за 25-га кастрычніка сёлета.

«У артыкуле — піша Ефрэмаў — А. Юроўскага „Захаваць і разьвіваць народнае мастацтва" — надрукаваным ў № 108 „Советской Культуры" за 9-га верасьня, было закранутае пытаньне маючае вялічэзнае значэньне для мастацкіх прадпрыемстваў (промыслаў) ня толькі Расейскай Фэдэрацыі, адылі і другіх рэспублік. Вось чаму мне і хочацца — піша Ефрэмаў — сказаць некалькі слоў аб народнай творчасьці Беларусі, аб стане мастацкіх калектываў і іхным кіраўніцтве.

«Ткацтва і вышываньне — узапраўды масавае мастацтва Беларусі. Вытканыя рукамі сялянак настольнікі, посьцілкі, ручнікі, вышытая вопратка, фіранкі выяўляюць надзвычайнае мастацтва, творчую вынаходлівасьць і багаты мастацкі густ таленавітых беларускіх здольніц.

«З даўна славяцца ў Беларусі і шмат другіх мастацкіх промыслаў: як барысаўская цэраміка, разьба па дрэву, прадукцыя фарфуровых і хрустальных вырабаў. На сяньня налічваецца да **дваццаці** калектываў Беларускай Прамысловай Каапэрацыі, якія выпускаюць мастацкую прадукцыю.

«Высокамастацкія ручныя вырабы менскага калектыву мастацкай вышыўкі „20 гадоў Кастрычніка" выстаўляюць свае экспанаты ня толькі на рэспубліканскіх, адылі і на міжнацыянальных выстаўках.

«Аднак гэта ўсё выробляецца ў вадзіночных экзэмплярах. І ў наша штодзённае жыцьцё гэтыя прадметы дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва амаль не ўваходзяць.

«Праўда, у вапошнія два-тры гады (прызналіся нарэшце пра свой дабрабыт) у магазынах беларускіх гарадоў зьявіліся дываны, мастацкія вырабы шкляных заводаў і фаянс. Адылі яны стандартныя, у іх няма своеасаблівасьцяў, што ёсьць ў народна-нацыянальным мастацтве.

«Прадукцыя ганчарна-цэрамічнага калектыву гораду Барысава — медзьвядзі, каты-скарбонкі, вазы, бочачкі — сьветчаць аб яўным упадку гэтае галіны творчасьці.

«У грубых па тэхніцы, нізкаякасных вырабах калектыву, цяжка знайсьці сьляды мінулага высокага мастацтва барысаўскіх майстроў. Цяпер спасылаючыся на неабходнасьць выпаўняньня фінансава-вытворчых плянаў. кіраўнікі калектыву амаль поўнасьцю перавялі прадпрыемства для **вырабу ганчарных плітак на будаўніцтва (!)** (пад. М.В.)»

Паказаўшы на беларускае народна нацыянальнае «надзвычайнае мастацтва» і «багаты мастацкі густ таленавітых беларускіх здольніц», савецкая культура якіх **заставіла** выробляць «ганчарныя пліткі» (?!), Ефрэмаў паставіў сабе і пытаньне: «Чаму на выстаўках мы відзім высокамастацкія сапраўды нацыянальныя вырабы дэкаратыўна-прыкладнага мастацтва, а ў прадажы толькі стандарт, манатоннасьць і ніскаякасныя рэчы?»

На гэта пытаньне зусім лёгка адказаць: усё нацыянальнае нерасейскіх народаў СССР, пачаўшы ад Замежных Прадстаўнікоў у ЗН да найдрабнейшых вырабаў барысаўскай цэрамікі, і ёсьць толькі выстаўкай, па за эстрадамі якой пры сучаснай каляніяльнай сыстэме на Беларусі, нідзе ні ў чым няма беларускага зьместу!

Канкрэтна: усё беларускае толькі і робіцца для выставак, па за стаянкамі якіх агулам і ў рожніцу на Беларусі **пануе расейшчына!**

Аднак сказаць такую праўду сучаснаму расейскаму акупанту Беларусі — гэта засудзіць сябе на сьмерць на Калыме!

І бедны сп. Ефрэмаў, шукаючы гэтым другіх прычын, піша: «Перадусім таму, што неправідловая існуючая сыстэма прадукцыйнага плянаваньня і ўліку выпаўненьня прадпрыемствамі зададзеных ім плянаў. Дасьветчаньні калектыву „20 гадоў Кастрычніка" паказалі, што самая здольная і дасьветчаная вышывальніца, працуючы творча, гэта значыць не па ўстаноўленаму стандарту, заданьняў па пляну выканаць ня можа.

Вось наглядны абразок **прадукцыі культуры** ў СССР! Адылі думаецца, што каб было «нацыянальнае плянаваньне», то і пры такой «неправідловай існуючай сыстэме», нешта «надзвычайна мастацкае», «таленавітымі беларускімі здольніцамі» было-б створана і для «быту штодзённага жыцьця» з «асаблівасьцяў народна нацыянальнага мастацтва» — толькі што гэтага «нацыянальнага плянаваньня» для карыстаньня ў штодзённым жыцьці **няма!**

Дзеля гэтага ей прыходзіцца «гнаць» найбольш упрошчаны стандарт, упатрабляючы ў гэты самы час найдаражэйшыя матар'ялы, як натуральны шоўк, крэпжаржэт, шыфон, дзеля таго, што і яны ўваходзяць у вагульную вартасьць вырабаў і памагаюць сваёй вартасьцю выпаўняць плян.

Яно за нацыянальнае!?

Прадоўжваючы свой водгук, сп. Ефрэмаў, загубляваючыся ў утопіі плянаваньня мастацкай вытворчасьці, піша: «Неправідловае плянаваньне затрымлівае разьвіцьцё і другіх калектываў! Арганізацыі, ад каторых непасрэдна залежыць мастацкая прамысловасьць Беларусі, — Беларускі Прамысловы Савет і Міністэрства месная і топліўнай (О іронія лёсу! Міністэрства топліўнай прамысловасьці кіруе мастацтвам!!!) прамысловасьці, зьяўляюцца перадусім гаспадарчымі ворганамі і зусім ня цікавяцца пытаньнямі мастацтва.

«Пры Беларускім Прамысловым Савеце існуе экспэрымэнтальная лябараторыя, пакліканая завяршаць мастацкую прадукцыю прамысловых калектываў. Але на жаль, яна выключна вядзе экспэрымэнты ў галіне вышыўкі.

«Ня цікавіцца прыкладным мастацтвам і Міністэрства Культуры Беларускай ССР. А ці-ж яно не павінна углыбляцца ў пытаньні мастацкай прамысловасьці, упрыгожаваючай штодзенны быт савецкага чалавека?»

Гэта пытаньне сп. Ефрэмаў пакідае адкрытым. І я тут на яго адкажу. Міністэрства Культуры Беларускай ССР павінна гэтым цікавіцца, адно толькі, што ў гэтым Міністэрстве, апрача прыметніка «Беларускае», **нічога і нікога няма!**

Спадару Ефрэмаў, ці-ж Вы не бачыце, што там сядзяць Расейцы і другія прыблуды з інтэрнацыянальнага сьметніка? Ці-ж Вы не бачыце, што яны не жадаюць цікавіцца і ня цікавяцца такімі вялікімі рэчамі на Беларусі, як Беларускі Тэатр Опэры і Балету, ці Беларускі Дзяржаўны Тэатр імя Янкі Купалы, а арганізуюць для **задавальненьня сваіх шавіністычных жаданьняў,** свае расейскія тэатры, ды навет выдаюць, **выключна для сябе** (як-жа іначай гэта можна зразумець!?) у пятай пяцігодцы «Советскую Белоруссию», газэту на чужой мове!

Вось сп. Ефрэмаў, не плянаваньні тармозяць разьвіцьцё беларускага народна нацыянальнага мастацтва — а акупацыя Беларусі — адумыслова насланы Масквой расейскі элемэнт, які ня ведае ані мовы, ані мастацтва, ані звычаяў беларускага народу!

Канчаючы свой кароткі водгук, сп. Ефрэмаў піша: «Садзейнічыць разьвіцьцю прыкладнага мастацтва мог-бы і Беларускі Саюз Савецкіх Мастакоў ды этнаграфічная група Інстытуту гісторыі Беларускай Акадэміі Навук. Адылі і яны трымаюцца на ўбоччы, не бяруць практычнага ўдзелу ў працы ўстаноў, (акадэмікі пры спаўпрацы з работнікамі топліўнай прамысловасьці[!]), кіруючых мастацкай прамысловасьцю».

Не бяруць і ня возьмуць удзелу!!! Яны добра памятаюць, што тыя, каторыя прынялі ўдзел, былі пастраляныя і сасланыя на Сібір, як «нац-дэмы», сучаснымі Мураўёвымі на Беларусі!

«Гэта неабходна — піша сп. Ефрэмаў. — Ня можна дапусьціць (бязумоўна што так!), каб з за перакручанага паняцьця (што беларускі нацыяналізм паложыць на лапаткі РСФСР) запатрабаваньняў плянаў блакітныя каты з гліны і нягустоўныя мядзьведзі-скарбонкі выціскалі ў нашым быце (беларускім нацыянальным мастацтве) сапраўды мастацкія вырабы, зробленыя жывой творчасьцю народных талянтаў». Так!

**Мікола Вярба**

▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▼▲▲

### БЮРО ІМКА Ў ШАРЛЕРУА

Каб адказаць на шматлікія просьбы, прысыланыя ў ІМКА, новае бюро гэтае арганізацыі адкрыта ў Шарлеруа й будзе рэгулярна функцыянаваць, пачынаючы ад 1-га сьнежаня сёлета.

Дні наведваньня будуць наступныя: аўторак, серада, пятніца — ад гадз. 9-ае да 11-ае й ад 15-ае да 18-ае.

Бюро займецца ўсімі пытаньнямі ў справе пашпартаў, візаў, эміграцыі, перакладаў, стараньняў перад уладамі, культурнае, спартыўнае й адпачынковае дзейнасьці.

Дапамогу ІМКА нясе ўсім бязь ніякае розьніцы, нікога не забавязваючы за ўслугі.

Бюро будзе функцыянаваць пад адказнасьцяй сп-ра Парашыні, які зьяўляецца Дзяржаўным Сакратаром Дапамогі Чужынцам.

# Больш дакладнасьці

**(ПІСЬМО З АЎСТРАЛІІ)**

Богу дзякаваць, у Аўстраліі беларускае грамадзкае й культурнае жыцьцё жыве і ёсьць пэўныя дадзеныя, што жыцьцё яно будзе надалей і ўложыць належны ўклад ў нашую агульную справу. Аб ім беларускую грамадзкасьць інфармуе дакладна й рэгулярна газэта «Бацькаўшчына». Ёсьць вельмі карысным, што «Бацькаўшчына» зьмяшчае справаздачы аб дзейнасьці й працы Беларусаў з усіх краінаў расьсяленьня нашае эміграцыі. Гэта бадай адзіны найбольш поўны рээстр нашай дзейнасьці, які ў будучыні будзе мець сваю цану. Сяньня карыстаемся гэтымі справаздачамі дзеля шляхотнага спаборніцтва ў ладжаньні розных сьвяткаваньняў, бяром адныя ад другіх прыклад, а можа самае галоўнае, што дзякуючы ім мы ўсе пачуваемся аднэй цэласьцю, ня гледзячы на тысячы кілямэтраў, якія нас дзеляць.

За гэта мы чытачы і ўдзячныя як рэдактару «Бацькаўшчыны», гэтак і карэспандэнтам газэты.

Але побач гэтых карысных бакоў ёсьць і бакі адмоўныя. Колькі нам ня прыходзіцца чытаць справаздачаў, яны амаль заўсёды інфармуюць толькі аб пазытыўных бакох, адмалёўваюць дзейнасьць заўсёды ў прыгожых хварбах. Бакі-ж слабыя і выразныя заганы старанна прамоўчваюцца. Калі аднак час ад часу і ўспомніцца нешта аб няўдачы, дык надта-ж асьцярожна і нявыразна, а аб благіх рэчах наагул нічога нельга знайсьці. Якраз гэта і ёсьць адсутнасьцю дакладнасьці, у выніку чаго ня раз дапускаюцца памылкі, якія ў далейшым ня могуць быць выпраўленыя.

А гэта шкодзіць нам і ў нутраным нашым жыцьці, а тым болей у рэпрэзэнтаваньні нашае нацыянальнасьці навонкі. І ўжо ў нас звыкліся з гэтым і таму кажуць: «Рабі, як зробіш, усёроўна аб благім ніхто не адважыцца сказаць ані напісаць». Бо бывалі выпадкі, што знаходзіліся такія адважныя й гаварылі голасна аб недахопах, дык іх адразу абзывалі апазыцыянерамі, а то й наагул ворагамі грамадзкай дзейнасьці. Дык і ня дзіва, што цяпер ніхто і не адважваецца чапаць недаробленага ці перакручанага, бо ўсё-ж і ня міла і ня прыгожа трапіць у апазыцыянеры ці яшчэ пад горшы ярлык. Вось яно ў нас і завялося — «рабі, як зробіш». А тымчасам шкода ад гэтага расьце й шырыцца.

Дык я адважуся вось упяршыню зьвярнуць увагу на рэчы недаробленыя і перакручаныя, каб дапамагчы іх выправіць і каб зьвярнуць увагу нашай грамадзкасьці аб патрэбе дакладнасьці ў нашай дзейнасьці і ў інфармацыі аб ёй. Таму што я жыву ў Аўстраліі, мне найбольш ведамая грамадзкая й культурная праца якраз тут, дык аб ёй і клапачуся.

Вось ляжаць перада мной два нядаўныя нумары «Бацькаўшчыны»: нумар 32—33 за 29 жнівення і нумар 34 за 12 верасьня. Гэтыя нумары ў Аўстраліі яшчэ «сьвежыя». Там я знаходжу справаздачу зь дзейнасьці беларускага аддзелу на міжнацыянальнай выстаўцы ў Пэрт, напісаную Данатам Сьвільскім, і справаздачу зь дзейнасьці Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі, напісаную Маханеўскім.

Бясспрэчна, гэтыя дзьве арганізацыі ёсьць дзейнымі і карыснымі, зрабілі й напэўна яшчэ зробяць шмат добрага, аднак шмат чаго выпусьцілі з увагі і гэтым зрабілі шкоду ў галіне рэпрэзэнтацыі мастацкай творчасьці нашага народу. Вось гляджу на фотоздымку выстаўкі. Сумна, што ўсе з мастацкага боку лепшыя і характэрныя беларускія тканіны і дзяружкі, настольнікі і ручнікі схаваныя па кутках. На першым пляне пераважаюць яскравыя пярэстыя сэрвэткі і падушкі навет зь небеларускімі матывамі. На манэкіне, убраным у прыгожую беларускую нацыянальную жаночую вопратку, чамусьці начэпленыя рознакалёрныя істужкі. Сьвятыя іконы бяз увагі параськіданыя на стале. А справаздача малюе ўсё вельмі прыгожа ў ружовых хварбах. Пярэстыя макаткі, якіх скрозь поўна, не маглі нічога сказаць аўстралійскаму гледачу аб мсатацкіх здольнасьцях нашай жанчыны. А чапляньне істужак да жаночай нацыянальнай вопраткі — гэта абраза нашай жанчыны, бо яна іх ня носіць. Ці вынес уражаньне аб глыбокай рэлігійнасьці беларускага народу аўстралійскі сьвятар ці пабожны сьвецкі чалавек, бачучы нядбала параськіданыя сьвятыя іконы? **Няхай гэтыя** словы ня будуць дакорам беларускім вэтэранам у Пэрт, але няхай яны зразумеюць іх, як заклік да ўважлівасьці і дакладнасьці ў іхнай далейшай працы. Магчыма вэтэраны-жаўнеры чаго-небудзь і ня ведалі, дык няхай гэтыя словы будуць дакорам для тых, якія ня прыйшлі з дапамогай вэтэранам у наладжаньні выстаўкі.

Сп. Маханеўскі піша ня менш прыгожа і на падмацаваньне напісанага падае лікі й стаж. Ня буду на іх затрымлівацца, закрану, толькі некаторыя мамэнты. Сп. Маханеўскі піша: «Былі сабраныя грошы на нацыянальныя касьцюмы, у якіх пазьней спатыкалі каралеву Альжбету і выступалі на розных міжнародных імпрэзах». Трэба толькі цешыцца з удзелу Беларусаў у падобных імпрэзах, ды толькі, на жаль, і тут ня ўсё было ў парадку, каб не сказаць горш. Мужчынскія вышытыя кашулі і прыгожыя паясы не гарманізавалі з жаночымі касьцюмамі. Гэтыя апошнія былі зусім небеларускія: вузкая спадніца ў дробныя хвалды, маленькі хвартух, гарсэцік з выкрунтасьлівымі бліскучкамі на фроньце, на галаве чапец ізноў-жа з такімі бліскучкамі.

Калі-б я ня знаў тых асобаў, якія былі апранутыя ў гэтыя «нацыянальныя касьцюмы», ніколі-б не сказаў, што гэта маюць быць Беларускі. Хутчэй-бы я іх прыняў за нейкую групу «эспэранто». І вось, на жаль, гэтае «эспэранто» ёсьць і ў нас і як-жа дрэнна яно нас рэпрэзэнтуе. Апрача гэтага яно пагражае зьнішчыць нашую старую традыцыю і спрычыняецца да адарваньня нас — эміграцыі ад нашага народу. З гэтай модай «мэльбурнскага крою» трэба станоўча змагацца тут у Аўстраліі, як і наагул на эміграцыі.

Спадар Маханеўскі жадае далей посьпехаў у далейшай працы арганізацыі, пажадаю і я ім посьпехаў, але перадусім пажадаю, каб арганізацыя зрабіла нацыянальны касьцюм для жанчын такі, каб ён запраўды рэпрэзэнтаваў прыгожую народную вопратку Беларускі і гэтым лучыў нас з нашым народам, а не аддаляў нас ад яго. Сумна яшчэ гэта й таму, што гэта здарылася якраз у Мэльбурне, дзе паводля сп. Маханеўскага жывуць і працуюць выдатныя беларусаведы. Цікава, ці праца над вывучэньнем беларусаведы не нагадвае ўспомненага факту з вопраткай?

Няхай-жа гэтыя мае шчырыя выказваньні нікога ня зьнеахвочваюць да далейшае працы, я гэткім чынам хачу толькі прасіць больш увагі і дакладнасьці да рэчаў дарагіх кажнаму Беларусу,

**(Заканчэньне на 7-ай балоне)**

**ВЛАСТ (ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)**

# Адзінокі

### ЭПІЗОД З ЖЫЦЬЦЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Палац перад ратушам у Вільні. На мураваным падвышэньні стаіць магістрацкі ўрадовец, ліцытуючы рэчы даўжбітоў. Яго абступае гарадзкая публіка: мяшчане, мяшчанкі, купцы, сьвятары абодвых законаў, студэнты, якія вучацца ў замежных унівэрсытэтах, чэрнядзь.

**Урадовец:**

Во гэту груду кніг, панове,
будзем прадаваці,
хто купіць ахвочы
просім аглядаці!

(Цікавыя падыходзяць да кніг, зваленых у груду на пляцы).

**I студэнт:** (разгортваючы грубы фаліянт, да свайго калегі):
Старасьвецкім, роўным пісана ўставам;
многа працы, добрая аправа,
ды, на жаль, навейшых тут дарма шукаць ідэяў.

**II студэнт:**
Усё-ж прыгожы гэты завіток із зьмеяў!
Каб ён быў у боскім стылю адраджэньня,
я-б гатоў быў даці...

**III студэнт** (сьмяючыся):
Скажаш, чэсьць свайго іменьні!..
Мала тут лаціны, — болей усё букі...
Ёсьць у простай мове для паспольства друкі...
Не, шукаць дарэмна тутака, што жывое,
У духу гуманізму... Больш усё такое,
не для нас, асьвету знаюць што замежную,
творы Аліг'еры, Гуса думку бунтэжную...

**I манах:**
Во так карае Бог рушыцеляў закону!
Яго-ж сьвятыя словы Францiш крануў рукою
у кнігах, ім самым наноў надрукаваных...

**I мешчанін:**
Такіх даўней каменьнем пабівана!

**II мешчанін:**
І моладзі ў навуку, рубалі гэткім руку.

**II манах:**
Вось ён ідзе... Бязбожнік!

**III мешчанін:**
Ён толькі новамоднік;
Бязбожнасьці няма ў ім.

**I манах:**
Пракляты вы да веку, што мудрыце ў пісьме;
што анельскай рукой накрэсьлена было!

**I Францішканец:**
Свае яго ня любяць,
затое, бач, і губяць.

**II Францішканец:**
А што-ж у іх усё пайшло?

**I Францішканец:**
Ён кнігі пераклаў у мову іх прыродную,
Яны-ж работу ўсю яго прызналі за нягодную.

**I пан:**
Прост дзіва: ён навукі скончыў многа
І доктарам сябе мянуе,
А сам гарнецца да паспольства
І кнігі ім друкуе?!

**II пан:**
Што кнігі для мяшчан тутэйшых,
і цёмнага паспольства. Дзіўна!
Ня бачу мудрасьці я ў ім,
бо-ж гэта прост наіўна!..
Тут, дзе шляхты род зь Італьскае зямлі
вядзе пачатак свой, — хоць, праўда, агрубеў
між гэтага народу, — усё-ж, традыцыі і кроў,
павінны падказаць, што мы, ад шляхты да паноў,
к лаціне вінны павяртаць!
А гэтых, шкодных пісьмакоў паспольных
да ката даць!

**Урадовец:**
Ацэнены на копы дзьве,
во тыя кнігі ўсе,
хто з вас, панове, болей?

